ДА 65- ГОДЗЬДЗЯ РЫГОРА БАРАДУЛІНА

# Прыбабунькі

*Учора Рыгору Барадуліну споўнілася 65 гадоў. «ТМ»асабліва прыемна павіншаваць Паэта і Грамадзяніна з днём народзінаў, бо менавіта Рыгор Барадулін першым адчыніў нашую леташнюю рубрыку «Пра тое, што хвалюе» Мы вырашылі сёньня прадставіць юбіляра не ягонымі вершамі й публіцыстыкай, а выбаркай занатаваных ім «прыбабунькаў", якія сумяшчаюць адначасна, як піша паэт, прыказку, прымаўку, калямбур і досьціп.*

**Рыгор Барадулін: «...Яны са мною змалку хадзілі, бо прыбабунькі ў мамы маёй былі на кожным кроку, на першым прыскоку. Я ўзяў іх ад мамы, з матчынай хаты яны пайшлі са мной, каб грэць, бадзёрыць, надзеіць мяне ў халоднай дарозе жыцьця».**



– Хлеб-соль! – Ядзім, ды свой.

–Добры вечар! – Добра лечыў, ды памёр.

– Адкуль? – З-пад кур, петухоў сын.

– Дзень добры таму, хто ў гэтым даму!

– Каб шырэй ступаў, дык на чарку б папаў.

– Калі ты курэц, дык і май свой тытунец.

– Дурны, дурны, а скваркі любіць.

– Не хваліся сеўшы, а хваліся зьеўшы.

– Ня будзь ні войтам, ні сватам, ня будзеш чалавекам праклятым.

– Цяжка толькі пачаць, а кінуць ураз.

– Служы верна і крадзь памерна.

– Дзьве бабы і Тумаш – поўны кірмаш.

– Кожная пачвара знойдзе сабе пару.

– Багаты на кані, а махляр на сьвіньні – і махляр перагоніць.

– Застаўся толькі дух ды пятух.

– Ляпі першы гнеў, чым апошні.

– Якая жонка ды ня жонка, а ўсё ж лепі за парасёнка: хату адчыніць і зачыніць.

– Мужык так гаруіць па жонцы, як баба па іголцы.

– Па малаку ног не павалаку.

– Калі сыродка поўная, тады і канцы іграюць.

– І сьвяты б паскакаў, каб гарэлкі паспытаў.

– Шлёп гаўно ў кашу, у панскую ды ня ў нашу.

– Зьеш хрэн, а рыба дарага.

– Ня будзь выдатнікам, ня будзь астатнікам.

– Злосьць пакінь на заўтра, а работу зрабі сягоньня.

– Ня руш нічога й ня бойся нікога.

– Свая хатка як родная матка.

– У сваёй хаці й качарга маці.

– Падторкнуўся, як чорт з каўшом пад брагу.

– Дзе харчы, там і тарчы.

– З кута ў кут – і вечар тут.

– Неяк зладзім – хлеб ёсьць, сала украдзім.

## Такую крэпасьць лёгка ня возьмеш

– Они меня раздражают, – гэтымі словамі судзьдзі В.Окань распачаўся судовы працэс па справе аб абароне гонару і годнасьці жыхаркі вёскі Міхеявічы Крычаўскага раёна Л. Чэпікавай, якая падала адпаведны зыск. А рэпліка судзьдзі была накіравана ў адрас прысутных у залі раённага суда прадстаўнікоў Беларускага Хэльсінскага камітэту.

Аднак спачатку перадгісторыя. Яна сягае сваімі каранямі ў лістапад 1999 года, калі галоўны рэдактар крычаўскай раённай газэты «Ленінскі кліч»Тацяна Іўкіна апублікавала ў сваім выданьні артыкул свайго ж аўтарства, напісаны з пэўнай доляй сарказму ў дачыненьні да гераіні сюжэту – маці чатырох дзяцей, удавы Любові Чэпікавай. На думку апошняй, у гэтай публікацыі былі пададзеныя неаб'ектыўныя і неправераныя факты, што закранаюць яе гонар і годнасьць, абражаюць мацярынскія пачуцьці. У зыскавай заяве Л.Чэпікава патрабавала абвержаньня фактаў, надрукаваных у «Ленінскім клічы", і выплаты ёй ад рэдакцыі газэты ў якасьці кампэнсацыі маральнае шкоды, пяці мільёнаў рублёў.

Вось некалькі, на думку Чэпікавай, такіх фактаў. Напрыклад, у артыкуле пералічваліся чатыры розныя арганізацыі, ад якіх Л.Чэпікава атрымала гуманітарную дапамогу (вопратку, прадукты харчаваньня й інш.). У выніку яна мела непрыемныя размовы са знаёмымі шматдзетнымі сем'ямі, якія чыталі артыкул у «раёнцы» Маўляў, ты перахітрыла нас і атрымала ўдвая больш пасылак, чым іншыя. На самой справе дапамога такога кшталту Чэпікавай была аказана толькі дзьвюма арганізацыямі, як і ўсім у Крычаўскім раёне, хто мае шмат дзяцей.

Таксама сьцьвярджалася, што Л.Чэпікава гандлюе без ліцэнзіі. За гэтым, расцаніла заяўніца, можна ўгледзіць абвінавачваньне ў няшчырасьці і нават у злачынстве. Але гандлявала жанчына гароднінай з свайго прыватнага гароду, а для гэтага, як вядома, не патрабуецца ніякае ліцэнзіі.

І вось 15 і 16 лютага судзьдзя В.Окань разьбіралася ў гэтай справе. Менавіта тады назіральнікі ад БХК пачулі ў свой адрас разнастайныя выказваньні ад паважанай судзьдзі. Напрыклад, ёю было выказана патрабаваньне спыніць запісы ў нататнікі. Затым прагучала прапанова пакінуць судовую залю, паколькі судзьдзя ня можа весьці працэс у прысутнасьці людзей, якіх яна ж год таму прыцягвала да адміністрацыйнага пакараньня. (Сапраўды такое было, але што з таго?)

У ходзе працэса прадстаўнікі БХК сталіся таксама сьведкамі кепскага стаўленьня судзьдзі да беларускай мовы. Па яе словах, судовыя працэсы ў нас павінны весьціся толькі на расейскай мове. (Аднак тут пракурор выступіла ў якасьці гаранта законнасьці. Яна заўважыла, што ў нас у краіне двухмоўе і справаводзтва можа весьціся як на расейскай, так і на беларускай мовах).

Ну, а што тычыцца вынікаў справы, то яна скончылася не на карысьць Л.Чэпікавай. У прадастаўленым суду (у перакладзе на расейскую мову, дарэчы) артыкуле спадарыня В.Окань не знайшла нічога, што абражала гонар і годнасьць шматдзетнай маці Чэпікавай.

Дарэчы, падчас суда высьветлілася, што падставай для друкаваньня артыкула на старонках «Ленінскага кліча»быў адпаведны матэрыял мясцовага камітэта дзяржкантролю. А падобныя матэрыялы, як вядома, абавязкова павінны друкавацца на старонках афіцыйнай прэсы. Такім чынам, у дадзеным выпадку галоўны рэдактар «Ленінскага кліча»выступала не як журналіст, а як **рупар** дзяржаўнай структуры. Куды ж судзьдзя адважыцца супроць гэтай структуры?!..

***А. КУЗЬМІН,***
***карэспандэнт «ТМ».***

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА



## БЕЛАПАН для «ТМ»

**А.Лукашэнка вельмі незадаволены працай як дзяржаўных СМІ, так і ідэалягічнай «вэртыкалі»**

Пра гэта заявіў кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі М. Мясніковіч на нарадзе кіраўнікоў дзяржаўных СМІ, прадстаўнікоў органаў дзяржаўнай улады і «вэртыкалі»

Журналісты, зазначыў ён, часта слаба рэагуюць на сытуацыю ў грамадзтве, ня ўлаўліваюць «танальнасьці падзей», і ў прыватнасьці не даюць «належнага ідэалягічнага адпору апазыцыі» «Стыль працы, паважаныя рэдактары, трэба мяняць, – сказаў М.Мясніковіч. – Газэты, радыё і тэлебачаньне трэба рабіць праваднiком пэўнай сацыяльнай тэндэнцыі, накіраванай на далейшае аздараўленьне грамадзка-псыхалягічнага клімату ў краіне, фармаваньне прагрэсыўнай грамадзкай сьвядомасьці»

Дзяржаўныя СМІ павінны стаць адным з найважнейшых мэханізмаў рэалізацыі прэзыдэнцкай палітыкі, заявіў кіраўнік ягонай адміністрацыі. Пры гэтым ён асабліва падкрэсьліў важнасьць працы СМІ ва ўмовах парлямэнцкіх выбараў, якія павінны адбыцца сёлета ўвосень. Прэзыдэнт, па словах М.Мясніковіча, патрабуе ад прэсы ў гэты пэрыяд быць «апэратыўнай і аб'ектыўнай»

●

**Беларускае таварыства абароны спажыўцоў (БТАС) упершыню за час свайго існаваньня правяло незалежны тэст прадуктаў харчаваньня.**

Ад ранейшых тэстаў гэты адрозьніваўся тым, што прадстаўнікі таварыства ананімна набылі ў крамах узоры тавараў – піва і смятаны – і правялі іх тэст у акрэдытаванай лябараторыі. Такім чынам, на выніki тэстаў не маглі паўплываць вытворцы, якія звычайна самі прадстаўляюць узоры для тэстаў, прадпрыемствы гандлю і дзяржаўныя органы нагляду за якасьцю і бясьпекай тавараў.

Высьветлілася, што тавары, набытыя для тэстаў, — піва «Казіно»і «Крыніца»вытворчасьці Менскага ВА «Крыніца», «Карона»Берасьцейскага камбіната безалькагольных напояў, «Лідзкае»ЗАТ «Лідзкі піўзавод», «Менскі бровар»завода «Аліварыя», а таксама сьмятана 10-ці % тлустасьці ў пакетах 2-га гарадзкога малаказавода Менску і 15-ці % ў пакетах Стаўбцоўскага малочнага завода – дастаткова бясьпечныя. Яны ня ўтрымліваюць таксычных рэчываў у колькасьці, перавышаючай дапушчальныя нормы. Аднак стандарты якасьці ўва многіх узорах піва не выконваюцца. Напрыклад, піва «Казіно», «Крыніца-1» і «Менскі бровар» больш кіслыя, чым дапушчана стандартам, вытворца «Лідзкага» указвае ўтрыманьне масавай долі сухіх рэчываў у сусьле на дзясятую частку працэнта вышэй за рэальна існуючую, а вытворца «Кароны» перабольшвае шчыльнасьць піва на 0,16 %.

Паводле слоў старшыні БТАС Вячаслава Ліева, такія тэсты – звычайная практыка спажывецкага руху ва ўсім сьвеце. Наступнымі прадуктамі для незалежнага тэсту, верагодна, стануць алей, жавальная гумка і, магчыма, вараная каўбаса масавых гатункаў.

●

**З 20 па 30 лістапада 1999 года з мэтай вывучэньня грамадзкай думкі аб сацыяльна-эканамічнай сытуацыі ў Беларусі сацыялягічная служба ЦК ПКБ правяла рэспубліканскае дасьледваньне.**

Былі апытаныя каля 5 тысяч жыхароў Беларусі, якія прадстаўлялі розныя сацыяльна-дэмаграфічныя групы насельніцтва. Падчас інтэрвію рэспандэнтам было прапанавана адказаць, як часта ім давадзілася за апошні год адмаўляць сабе ў прадуктах харчаваньня, самым неабходным адзеньні, а таксама ў мэдычным абслугоўваньні і леках.

Апытаньне паказала, што часта адмаўлялі сабе ў прадуктах харчаваньня 54 % апытаных, у неабходным адзеньні – 63 %, у мэдычным лекаваньні – 42 % рэспандэнтаў.

Ніколі не адмаўлялі сабе за 1999 год у прадуктах харчавання 10 % рэспандэнтаў, у адзеньні – 9 %, у мэдычным абслугоўваньні і леках – 22 % апытаных жыхароў Беларусі. Як паведаміла кіраўнік сацыялягічнай службы ЦК ПКБ, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га скліканьня Алена Скрыган, 57 % рэспандэнтаў прычыну пагаршэньня свайго жыцьця бачаць у развале СССР. Каля паловы – 45 % апытаных – вінавацяць цяперашні ўрад, 37 % – прэзыдэнта. Па 30 % у якасьці вінаватага ўказалі на чыноўнікаў і органы мясцовай улады. 22 % – на мафіёзныя структуры, а 17 % – на саміх сябе, г.зн. на грамадзянаў Беларусі. Палітычную апазыцыю ў гэтай сувязі згадалі толькі 7 %

●

**22 лютага у Менску на плошчы Бангалор прайшоў мітынг у абарону правоў чалавека ў Беларусі.**

Санкцыянаваную ўладамі акцыю правяла група грамадзян, якія ствараюць новую грамадзкую арганізацыю – Асацыяцыю ахвяр злачынстваў і злоўжываньняў улады. У акцыі ўзялі ўдзел каля 30 чалавек. Гэта людзі, што пацярпелі ад дзеяньняў уладаў: незаконна звольненыя з працы, выселеныя з кватэр, пацярпелыя ад дзеяньняў міліцыі, страціўшыя сваякоў у войску. Выступоўцы адзначылі, што ня мелі раней дачыненьня да палітычнае дзейнасьці. Аднак, сутыкнуўшыся зь дзяржаўнай бюракратычнай машынай, немагчымасьцю вырашыць свае праблемы пры цяперашнім рэжыме (большасьць гэтых людзей прайшлі ўсе інстанцыі, аж да вышэйшага кіраўніцтва краіны), зараз яны вылучаюць палітычныя патрабаваньні аб адстаўцы А. Лукашэнкі. Ён, на іхную думку, ня выканаў перадвыбарчыя абяцаньні – не ўсталяваў парадак і справядлівасьць у краіне і незаконна застаецца ва ўладзе, нягледзячы на заканчэньне пяцігадовага прэзыдэнцкага тэрміну.

Яшчэ адзін зварот удзельнікамі мітынгу накіраваны ў ААН. У ім паведамляецца аб масавых парушэньнях правоў чалавека ў Беларусі: «Кругавая парука, тэлефоннае права, падман, цынізм, нахабства, вымагальніцтва хабару ўзьведзены ў ранг дзяржаўнай палітыкі. У Беларусі няма разьдзяленьня ўладаў. Усе ўлады дзейнічаюць узгоднена, у злачынных мэтах. Краіна ператварылася ў паліцэйскую дзяржаву». Удзельнікі акцыі зьвяртаюцца ў ААН з просьбай накіраваць у Беларусь камісію для вывучэньня сытуацыі, што склалася з правамі чалавека.

БЕЛАПАН для «ТМ»

